Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada



## ГІМНАЗІЯ ІМЯ АДАМА МІЦКЕВІЧА Ў ПРУЖАНЕ.

Гімназія імя Адама Міцкевіча ў Пружане заснаваная былаа ў 1922 годзе, афіцыйна двя гады пасьля акупацыі Заходняе Беларусі - заходняе часткі Беларускае Народнае Рэспублікі - Польшчай. Гімназія была польскай. Беларускай мовы нават як прадмету ў ёй ня было.

Гімназія імя Адама Міцкевіча ў Пружане была гуманістычнага тыпу. У той час у Польшчы былі гімназіі й матэматычмага ды клясычнага тыпу. У гімназіях гуманістычнага тыпу апрача замежных, да выбару, нямецкае або францускае, моваў, вылкадалася й лаціна - лацінская мова. У сярэдніх школах клясычнага тыпу выкладалася грэка й лаціна. За часоў, калі я вучылася ў гэтай школе - ад 1933 да 1938 году - гімназія была старога яшчэ тыпу, што значыць у ёй было восем клясаў - ад 1-ае да 8-ае. Лаціну пачыналі выкладаць з 4-ае клясы.

Першыя веды здбывала я ў полскай пачаткавай школе, будынак якое з чырвонае цэглы прыгожа захаваўся па сяньня на Замклавай вуліцы. Вуліца гэтая на усход выходзіла на вуліцу Доктара Пацевіча, што вяла на поўнач, да «палацу Графіні», сьветлыя вежы якога манумэнтакльна ўзносіліся над зеляньню дрэў, акуратна дагледжанага парку, дзе ня раз мы-школьнікі хадзілі па яго алеях ды збіралі вясной беленькія кветкі - «завільцы». Кветак было процьма і не забаранялася іх зрываць. Вось-жа ідучы ў напрамкы «палацу Графіні» ды парку па правым баку вуліцы ня так далёка ад Замкавай стаяў прыгожай архітэкыуры, зь вялікай вэрандай, драўляны будынак гімназіі. Глядзелі на яго мы-дзеці пачаткавай школы з пашанай, як на нешта важнае, недаступнае. І гімназісткі, ды гімназісты таксама народ быў не штадзённы. Усе яны былі хораша апранутыя ў гімназіяльныя «мундзіркі», з цёмна-сіняга («гранатовага») ваўнянага матарыялу. У дзяўчат - спаднічкі ў складачу й блюскі з даўгімі рукавамі. На правым рукаве была «тарча» - знак школы. Вучні ніжэйшых клядсаў ад 1-ае да 4-ае на «мундзірках» мелі блакітныя дыскрэтныя аблямаваньні- выпусткі, старэйшыя клясы - ад 5-ай да 8-ай - чырвоныя. Кожны мог бачыць на вуліцы, што ідзе гімназіст, ці гімназістка, ды ці з малодшых, ці старэйшых клясаў. Вось вучыцца ў гімназіі й насіць такі



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

мундзірак, і быць гімназісткай у мяне малое, як падрастала, было не асягальнай марай. Бо-ж, каб вучыцца ў гімназіі, перш за ўсё трэба было туду папасьці, што ня было простым. Ня шмат хто зь мяшчан-беларусаў там вучыўся. Каб папасьці ў гімназію, трэба было здаць конкурсны экзамен, па другое навука ў гімназіі была надта каштоўная. Дзеці польскіх ўраднікаў, ці інакш кажучы палякі, былі звольненыя ад аплаты на палову, а беларусам трэба было плаціць усе 220.00 злотых у год. Дзеля таго, што навука ў гімназіі каштавала шмат, пераважна ахвотнікі паступіць у гімназію канчалі пачаткавую сдямігодку, і тады здавалі ўступнмы экзамен у 4-ю клясу гімназіі. Вось гэты экзамен быў конкурсны.

**Як я дасталася ў гімназію.**

Наш тата, Мікола Жукоўскі, разумны чалавек, земляроб, дасканала разумеў значэньне навукі й за ўсякую цану, хацеў даць яе сваім дзецям. З 1930 году ў гімназіі вучылася ўжо мая старэйшая сястра Валянціна. І тату было цяжка спраўляцца з аплатай за гімназію. У 30-х гадох па ўсім сьвеце быў гаспадарчы крызіс, і асбліва цяжка было земляробам. Летам, памятаю, не хапала хлеба, бо жыта трэба было тату прадаваць зімой «на гімназію». А тут і другая дачка даходзіць да 7-ае клясы пачаткавае школы й ёй хочацца вучыцца ў гімназіі. Звычайна вучням, якія хацелі паступаць у гімназію, бацькі наймалі «карэпэтытараў», якія рыхтавалі іх да экзаменаў. Мне «карэпэтытара» тата не наймаў, бо казаў , што няма сродкаў яшчэ і за другую дачку плаціць за навуку ў гімназіі. А 13-ці годовае дзяўчо думала сябе: пашто мне карэпатытар. Буду сама дакладна вуыцца тыя прадметы, якія мы маем у 7-ай клясе пачаткавай школы. Калі я іх буду дастаткова ведаць, дык буду мець шансы здаць экзамен. Нічога ня трачу, буду пробаваць . Складаць заяву на экзамены ў 4-ю клясу гімназіі, тата мне не забараняў. Як пасьля расказваў , думаў, што ня здам, а як здам - тады пабачым.

**Экзамены.**

Вясной 1933, пасьля заканчэньня школьнага году, прыйшло нас на экзамен у гімназіяльны будынак кільканаццаць асобаў. Экзамены былі пісьмовыя й вусныя. Здало нас у 4-ю клясу гімназіі А. Міцкевіча шэсьць асобаў і сярод іх аказалася й маё прозьвішча. І тата мой, замест сумаваць, цешыўся й ганарыўся дачкой. І як мама казала: сеў на ровэр і паехаў расказаць кожнаму, каму трэба, добрую навіну, што дачка здала ў гімназію. І так тату трэба было купляць матарыял, а маме шыць і нме «мундзірак» з блакітнымі выпутскамі, а сястры з чырвонымі, бо яна была у

старэйшых клясах.

Набліжаўся верасень, пачатак 1933-4 школьнага году. Трэба падручнікі. І яны каштуюць ня мала. Вучні малодшых клясаў куплялі ўжываныя падручнікі у тых, што перайшлі ў старэйшую. Ды знайсьці такую нагоду, каб купіць ужываны падручнік ня было лёгка, але неяк давалі раду. Пажычалі падручнікі адзін ад другога, або разам вучыліся. Да гэтага былі прывыкшыя.

Лекцыі, як і ў пачаткавай школе, пачыналіся а 8-ай гадзіне раніцы й канчаліся недзе каля 1-ай гадзіны дня. Як скрозь і заўсёды да хаты даваліся заданьні да выкананьня. На гэтым мейсцы яшчэ аб нечым трэба сказаць. Тата быў земляробам. Поле мяшчан ня было ў адным куску, у адным мейсцы, а раськіданае шнурамі кругом гораду на Патрысаўшчыне, Масялцы і іншых палетках, назовы якіх забыла. Гаспадарку абраблялі мы самі сваёй сямёй. І дзеці змалку выконвалі у гаспадарцы кожны сваё заданьне. У верасьні, калі пачыналася школа, збожжа з поля было ўжо сабранае. Бульба й гародніна зьбіралася да Пакроваў. Значыць, нам дзецям і з пачаткавае школы і зь гімназіі пасьля школы трэба было працаваць і на гаспадарцы. Зімой кажны з дзяцей выконваў сваю ролю пры малатарні - малаценьні збожа. Вясной, як садзілі бульбу, пасьля школы трэба было йсьці праз горад зь віламі ў руках за возам наладаваным гноем, які пасьля растрасалі па полі. Пішу пра гэта коратка, бо быццам бы гэта да гісторыі гімназіі зусім не належыць. У сутнасьці й гэта належыць, бо гаворыць аб варунках, у якіх вуыліся некаторыя яе гадунцы. Гаварачы аб гэтым я не наракаю, а ганаруся, што беларусы ў Заходняй Беларусі, акупаванай Польшчай, хоць з фінансавымі й іншымі цяжкасьцямі, але імкнуліся й здабывалі навуку, бо навука адкрывае дарогу ў жыцьцё , як адзінкі так і ўсяго беларускага народу. Таму-ж нас акупанты з усходу й з захаду й стараюцца трымаць вечна ў цемнаце, нішчаць нашую культуру, каб мы не пабачылі дарогі да незалежнага жыцьця .

## Пра прафэсароў і навуку.

Усе настаўнікі гімназіі менаваліся прафэсарамі. Вучні й усе кругом зьвярталіся да іх: «Спадар Прафэсар», папольску: “Panie Profesoze”. Усе настаўнікі, ад фіскультуры да лаціны, былі прысланыя з глыбі Польшчы. Кіраўніуком школы быў дырэктар, а можа й «kierownik», ня памятаю. Усе яны былі людзі культурныя, з унівэрсытэцкай асьветай. І я, як зрэштай і усе вучні, адносіліся да іх з поўнай павагай. І большасьць зь іх былі добрымі пэдагогамі, як і ўся гімназія, цяпер сказала бы , стаяла на

высокім акадэмічным і йншым узроўні.

Відавочна, што заданьнем школы было ня толькі даць вучням навуковыя веды, але й узгадоўваць іх на годных людзей. Вялікая ўвага прыдавалася прышчапляньню вучням ветлівасьць, вучыць правільна захоўвацца ў розных абставінах жыцьця. Ветлівасьць - гэта ня толькі вонкавыя нормы, а й падстава маральнасьці, прыкмета цывілізаванасьці. Цывіліузаваны чалавек ветлівы, уважлівы да іншых, высока ценіць сяброўатва, сочыць за тым, каб сяброўству не пашкодзіць, ня будзе на сябру пляткаваць, ці зьневажаць яго завочна.

Чаму я расьпісалася пра ветлівасьць? На думку прыйшоў мне выпадак: Калі ў 1939 годзе Заходнюю Беларусь акупавалі бальшавікі, зьмяніліся абставіны й у гімназіі Адама Міцкевіча. Да рэчы, настаўніцай беларускай мовы тады ў гімназію была пасланая спадарыняй Кацярынай Стаўбунік, беларускай патрыёткай з Пружаны, мая сястра Валянціна Жукоўская. Кіраўніком гімназіі была прызначанна ўладамі «завуч», жанчына прыехаўшая з усходу. Ня ведаю, ці была яна беларускай, бо гаварыла выключна парасейску. Вось жа адзін вучань гімназіі адкрыўшы дзьверы, пусьціў спадарыню Завуч першую ўвайсьці ў залю. Спадарыня Завуч увайшла й сказала прысутным: «Нічыво, мы іх перавоспітаем!», ці інакш, зьнішчым іхнюю цывілізаванасьць.

Ізноў жа, скажаце, што пішу не на тэму, не пра гісторыю гімназіі. Якраз на тэму, як гімназія ўзгадоўвала сваіх гадунцоў, і які клопат меў пасьля савецкі рэжым іх пераўзгадоўваць.

**Прафэсар Франьцішак Палка - паляніст.**

Найболей у памяці застаўся мне прафэсар Франьцішак Палка, паляніст прысланы з пад Кракава. Выкладаў польскую літаратуру. Быў надзвычай добрым пэдагогам. Вучыў нас думаць, углыбляцца ў сэнс літаратурнага твору, самім прыходзіць да выснаву, якая галоўная думка тывору. Памятаю, наводзячы нас на думку, ніяк ня мог выціснуць з нэс - цэлае клясы - спрэцызаваньня галоўнай думкі твору Адама Міскевіча «Дзяды», папольску - "Dziady", аж нарэшце зь ягонай дапамогай выціснулі, што: жыцьцё загробнае ёсьць кансэквэнцыяй дачаснага. Справа была ў спрэцызаваньні думкі: "Zycie pazagrobowe jest konsekwecyja zycia doczesnego". Вучыў нас прафэсар Палка любіць паэзію. Твор, які меліся разглядаць ён чытаў перш сам. І чытаў так, што слухалі мы яго ня толькі мазгамі, а усёй душой і ўсім сэрцам. Так прыгожа чытаў. Праўда, была гэта паэзія часоў рамантызму - А. Міцкевіча, Ю. Славацкага, пачуцьцёвая, патрыятычная. Патрыятызму вуыліся палякі свайго, беларусы

свайго. :

Літва, зямелька мая , ты маўляў здароўе,
Той цябе ацэніць , каму безгалоў'е .  -  А. Міцкевіч

«Безгалоў'е» - такое добрае, дабітнае беларускае слова, якога цяпер ў літаратуры й у гутарцы не спатыкаеш. А яшчэ за маіх часоў у Пружане гаварылі: « Дзе дзеўся Антон?!» - «А! пайшоў на безгалоў'е!», што значыць, пайшоў, ці выехаў кудысь на сваю бяду, гатоў недзе загінуць.

Або твор Ю. Славацкага:

Na Termopile bym sie nie adwazyl
Zatrzymac konia w pochodnym orszaku,
Na Termopile, gdyby staneli meze nad mogila
I pokazawszy mi swe piersi krawe,
Spytali wrecz: wielu vas bylo?!
Zapomnij, ze to wiekow wielki przedzial,
Gdyby spytali tak, coz bym adpowiedzial?

abo:

Niech zywi nie traca nadziei,
I przed narodem niosa oswiaty kaganiec,
A kiedy trzeba, na smierc ida pokolei,
Ja kamienie przez Boga rzucane na szaniec

Гэта нам-беларусам трэба заўсёды памятаць!

На Тэрмапілях 300 спартанцаў пайшлі бараніць свае бацькаўшчыны й баранілі яе пакуль у баі ня паў кожны зь іх. Славацкі гаварыў да палякаў, што не баранілі сваю бацькаўшчыну так, як тэрмапільцы, але адносіцца гэта й да нас-беларусаў. Мы не абаранілі нават свае роднае мовы - палякі абаранілі.

Прафэсар Палка вучыў нас правільна, ўдумліва з пачуцьцём чытаць паэзію. Мастак - ці то Міцкевіч, Купала , ці Максіом Багдановіч - у сваіх вершах выражае сваю думку, свае пачуцьці, свой боль, сваё захапленьне прыгаством і чытальнік ягоных твораў павінен перадаваць думку й пачуцьцё ўложанае ў верш паэтам. Вось жа ад прафэсара Франьцішка Палкі я вучылася й правільна чытаць паэзію. Ён быў эстэтам. Бачыў і ўмеў цаніць прыгаство, дзе яно было. На вуліцы 3-га Мая, цяпер здаецца Савецкай, быў будынак, мусіць беларускае шляхты, магчыма Выслаувхаў. Прафэсар Высловух выкладаў на Віленскім унівэрсытэце Сьцяпана Батуры. Мяне называў «зямлячкай», бо я была з Пружаны

й ён з Прыжаны. Вось жа праф. Палка захапляўся архітэктурай гэтага будынку, паказваў нам у клясе фатаграфію яго й растлумачваў, чаму архітэктура будынку прыгожая. Цяпер будынку гэтага мусіць мяма, або згарэў у часе вайны, або саветы зьнішчылі, як яны плянамерна нішчылі прыгожую архітэктуру Беларусі - памяткі гісторыі Беларусі.

Кожную нядзелю вучні сарганізавана парамі ішлі на 9-ю гадзін раніцы ў царку, (якую, дарэчы, пружанскія жанчыны абаранілі ад бульдазэраў) на Багаслужбу. Вось вам і духовае узгадаваньне! З вучнямі заўсёды ішоў нейкі настаўнік. Раз давялося ім быць праф. Палку, На канец Багаслужбы ўсе мы разам з хорам пяялі гімн «Па Тваю міласьць...» Праф. Палка, калі мы выйшлі з царквы з захапленьнем казаў: «Што за цудоўны гімн! » Кажам яму, што гэта гімн да Маці Божае.

Бывала часам праф. Палка бурчаў: «Як шавец шые боты, то бачыць, што пашыў, а настаўнік.....» маўляў рэзультату свае працы ня бачыць. Пасьля ў жыцьці ня раз успаміналася, што казаў і як ў даным выпадку праф. Палка раіў бы зрабіць. І думала сябе: няпраўда, боты зробленыя шаўцом за год - два зносяцца, а што навучыў настаўнік, дае курысьць вучню на ўсё ягоняе жыцьцё.

**Лекцыі лаціны.**

Як правільна чытаць паэзію вучыліся мы й на лекцыях лаціны. Пра «лаціну» трэба сказаць болей. Лаціну вуыў Прафэсар, забыла ягонае прозьвішча. Пасьля быў іншы, але навука абодвух іх зрабіла на мне-на нас незабыўны сьлед.

Прадмет Лаціны быў вельмі трудны. Граматыка й складня была абшырная, а яе трэба было ведаць, ды бязь веданьня яе нельга перакладаць лацінскага тэксту на цяперашнюю мову. Чыталі мы выняткі з арыгіналных твораў рымскіх пісьменьнікаў: Гарацага, Віргілія, Цыцэрона, Цэзара ды іншых. Вось маеш сказ, ведаеш у ім усе словы, а сэнсу сказу не разабраць. Вельмі трудна перакладаць лацінскі тэкст на цяперяшнюю мову. Пытаемся настаўніка, пашто нам вучыцца мёрвую мову, якая цяпер не ўжываецца, а якую так трудна вучыцца. Прафэсар адказаў , што вучачыся лаціну, мы вучымся думаць, пазнаем старажытную літаратуру, культуру, якая сталася асновай заходняэўрапэйскай культуры. Ды граматыка й складня лаціны ёсьць падставай граматыкі й складні усіх эўрапэйскіх моваў у тым ліку й беларускай. А трудна перакладаць з лаціны на сучасную мову таму, што ход думкі старажытных рымлянаў быў іншы ад нашага. Дабіўшыся перакладу, нам трэба было на памяць вучыцца лацінскія вершы, скажам Гарацага, ці выняткі прамоваў Цыцэрона.

Асабліва вершы, ды й проза рымлянаў мелі прыгожую рытміку й цытуючы лацінскія вершы, мы вучымся адчуваць і рытміку цяперашніх вершаў , што памагае правільна іх рэцытаваць

Лекцыі трывалі 45 хвілін. І ўжо на 4-ай, ці 5-ай лекцыі вучні былі змучаныя. Таму ў часе лекцыі настаўнік рабіў некалькіхвілінны перапынак, усе ўставалі й рабілі рукамі гімнастыку. На лекцыі лаціны Прафэсар казаў усім ўстаць і рэцытаваць лацінскія мудрыя пагаворкі. Прыкладам:

"Guttá cavát lapidém, non vi, sed sépe cadéndo"., што значыць: «Кропля вады падаючы на камень робіць у ім ямачку **ня сілаю**, а **частасьцьцю паданьня»**. Або, пружанская інтэлігэнцыя зарганізауе багаты, цікавы этнаграфічны музэй у палацы Графіні не таму, што будзе мець дастаковыя фінансавыя сродкі й падтрымку рэжыму, што дбае пра разьвіцьцё **беларускае** культуры ў Рэспубліцы Беларусь, а таму, што цярпліва, бязупынна будзе кроплю да кроплі ўкладаць у справу музэю свае здольнасьці, свае веды, свае намаганьні, сваю душу, сваю адданасьць справе.

Другое прыслоўе: "Témpora mútantúr end nós mutámur in íllis......" = «Часы зьмяняюцца й мы ў іх зьмяняемся. Як доўга ты шчасьлівы, так доўга налічваеш шматлікіх прыяцеляў. Пройдуць тыя часы й застанешся сам». Рэцытавалі мы ў часе перапынкаў на лекцыях лаціны й іншыя філязафскія мудрасьці. Жыцьцё й навука ў гімназіі не былі нуднымі, а цікавымі. А спорт, а гімнастыка, танцы вучылі нас быць гібкімі, стройнымі дзяўчатамі й хлапцамі.

У 1997 годзе, у часе паховінаў нашае слаўнае пясьняркі Натальлі Арсеньневай, якое рэлігійна-нацыянальны гімн «Магутны Божа» (паложаны на ноты Міколам Равенскім) пяюць сяньня ў беларускіх цэрквах-касьцёлах па ўсім сьвеце, мне давялося мець пахавальнаую па ёй прамову, у якой цытавала я Гарацага, які казаў пра самога сябе: "Nón omnés moriár, múlta que párs mei, vítabít Libitín..." = «Ня ўвесь я памру, большая частка мяне ўнікне Лібітыны стралы...» Так і Натальля Арсеньнева - ня ўся памерла, большую частку яе не кранула Лібітыны страла-сьмерць, так як Гарацы і Натальля Арсеньнева будзе жыць туысячыгодзьдзі.

**Прафэсар Лазоўскі, матэматык.**

Клясавым апякуном у нас быў настаўніук матэматыкі, прафэсар Лазоўскі (Лозовскі) з расейскай з царскіх часоў асьветай. Добры настаўнік матэматыкі. І ён таксама дбаў пра нашае агульнае ўзгадаваньне. Раз у год арганізаваў ён, у часе мясаеду - масьлініцы (гэта пэрыяд пасьля калядніх сьвят аж да Вялікага посту перад Вялікаднем), баль нашае

клясы. Бальную залю, адну із вялікіх заляў школы, дэкаравалі мы пад ягоным кіраўніцтвам. Перад балем, іншыя настаўнікі, як праф. Палка, вучылі нас танцаваць - вальс, палянэз (Наш Агіньскі пісў палянэзы). Вучылі нас, як захоўвацца, як хлапцы - павінны запрашаць да танцу дзяўчат, як дзяўчатам трымацца. На баль прыходзілі мы ўсе ў адсьвежаных, школьных «мундзірках». Заміж «гранатовае» блюзачкі, можна было мець на сабе прыгогую белую, з прыгожа прычэсанымі валасям, але бязь ніякага маляваньня на тварах. Гэта было наагул у школе, як і курэньне, забаронена. Ды усяроўна ўсе й усё ў бальнай залі выглядала прыгожа, сьвяточна й весела. Наш класавы настўнік праф. Лазоўскі меў на сабе фрак з даўгімі поламі. Маткі некаторых вучняў арганізавалі буфэт. Была гарбата, ці кава. Пэўне-ж ня было алькагольных напітак (якія цяпер затручваюць Беларусь). Выглядае, што ўсё ў гімназіі было, як у раёчку. Яно то й было: была маладосьць, была праца, былі страхі перад экзаменамі, былі хваляваньні ўдачаў й цярпеньні з прычыны няўдачаў . Было ўсяго .

Была й сытуацыя, калі тату ня было чым заплаціць за мяне за навуку й я ня мела праваісьці ў школу, але дома вучылася й плянавала вясной здаваць у наступную клясу. Прыйшоў тата ў школу плаціць за сястру, бо яна ўжо канчала гімазію, дык трэба было ёй неяк дацягнуць да канца. Прыносіць тата дырэктару школы 110.00 злотых за паўгода, а дырэктар пытае: а што з другою дачкою? Тата кажа, што ня мае чым плаціць, што я дома вучуся й буду здаваць у наступную клясу. Дырэктар кажа тату, што дзіцё вучыцца ў школе ня толькі з кніжак, ці ад настаўнікаў, а й ад іншых дзяцей, ад калег. І параіў тату злажыць заяву-просьбу аб звальненьне на палову ад аплаты. Тата гэтак зрабіў і мне , ды мусіць і Валянцуіне далі зьнішку на палову. Мне трэба было зрабіць экзамен з таго часу, як я не хадзіла ў школу, а гэта было дабрага з паўгоду. Экзамен я здала й з радасьцью вярнулася ў школу. Гэта было вельмі прыгожа, палюдзку з боку кіраўніка гімназіі.

## Адносіны да беларушчыны

Час ад часу ў гімназіі былі «вывядувкі», калі бацькі прыходзілі ў школу даведацца, як спраўляюцца з навукай іхнія дзеці. Прыходзіць тата з «вывядувкі» і кажа: Настаўнік польскай мовы сказаў, што калі мы ня будзем гаварыць дома папольску, дачка (значыць я) ня скончыць школы. Не на таго натрапіў. Ніколі ў нас дома ня было польскае мовы. Бог хацеў, каб гэтага настаўніка замянілі на наступны год другім - праф. Франьцішкам Палкам, дасканалым пэдагогам, пры якім тая вучаніца, якой

пагражала незакончаньне школы, сталася адной з найлепшых, хоць польскай мовы ў дома яе ня было.

Нашаму клясаваму настаўніку праф. Лазоўскаму трэба было падаць даведку, якая ў ягоных вучняў родная мова. Вышкаленыя вучні адзін за другім падаюць, што іхні "jezyk ojczysty - polski", усё йшло спраўна й гладка, пакуль чарга не дайшла на вучаніцу, якой пагражала не закончыць школу. Яна кажа настаўніку, што ейны "jezyk ojczysty - bialoruski". Праф. Лазоўскі пярэчыць, што так ня можа быць, што ейная родная мова польская, і толькі. Ды маладая асоба ня думала ўступаць. Тады ён сугэруе, каб падала сваёй роднай мовай ужо ляпей расейскую, бо-ж яна, паводле яго, прыгажэйшая. Тут я ўськіпела, і кажу яму: Запішыце, што француская, кажуць, што француская найпрыгажэйшая! Счырванеў настаўнік. І далей перапісь пайшла йзноў гладка. Усе падавалі родную мову польскай. Аж устаў сын праваслаўнага сьвятара (не пружанскага) й кажа, што й ягоная родная мова беларуская. Болей спрэчак ня было.

Тут успомню, што др. Васіль Гарустовіч, які быў хірургам у Пружанскім шпіталі, ужо памёр, быў абсальвэнтам гімназіі А. Міцкевіча ў Пружане. Вучыўся ў той самай клясе, што мая сястра Валянціна. Быў здольным, выдатным вучнем. Ён падаваў сябе беларусам і сваю родную мову беларускай.

Нам, мясцовым беларускім дзецям, яшчэ ў першых клясах пачаткавае школы трэба было завучыць напамяць вершык:

Kto ty jestes?
Polak maly.
Jaki znak tvoj?
Orzel bialy.
Gdzie ty mieszkasz?
W polskiej ziemi.

А раз ты ўжо змалку зрабіўся «паляк», дык лягічна й твая родная мова павінна быць польскай. Проста й ясна, як на далоні. Ды Лазоўскі напэўна быў расейскім эмігрантам, што ўцёк ад бальшавікоў і апынуўся ў Польшчы. Таму-ж яму болей, як паляку ненавістаная была беларуская мова.

Вучыліся мы паэзію Адама Міцкевіча й лічылі яго палякам. Піша папольску, значыць польскі паэт. А цяпер нам кажуць, што нічога, што беларусы пішуць свае працы парасейску. Усяроўна, гэта беларускія працы. Тут то й трагэдыя. Пішуць на іншай мове, узбагачаюць іншую культуру, так, як Міцкевіч узбагачаў польскую й цяпер палякі лічаць яго сваім. Цётка

праўду казала:

Наш сявец ня раз там кідаў
залатое зерне з жмені,
ён ня раз там плёны выдаў,
а ў нас расьлі каменьні.

Вучыліся мы пра Касьцюшку - пэўне-ж полскага патрыётя. Вучыліся пра Кастуся Каліноўскага, прамоўчваючы ягоную «Мужыцкую праўду», першую беларускую газэту. Вучыліся мы, што “Wielkie Ksiestwo Litewskie” складаецца зь: “Litvy, ziem Ruskich i Zmudzi”. Гэта правільна. Міцкевічавая Літва “Litwo, ojczyzna moja...” гэта ня сяньняшняя Летува-Жмудзь, а беларуская Наваградчына, Горадзеншчына - Беларусь.

Закончыла я гімназію імя Адама Міцкевіча ў Пружане, здала матуру, у 1938 годзе. Роўна 100 год пасьля ліквічдацыі царскім рэжымам беларускае ўніяцкае царквы ў Беларусі. Прыказам царскім спалена была ўся рэлігійная беларуская ўніяцкую літаратура. Спалены былі відавочна й мэтрычныя кнігі, ў якіх запісана было што насельніцтва было уніяцкае веры. Таму ж так шмат старэйшых людзей і ў Пружане не маглі дастаць сваіх мэтрыкаў нараджэньня, бо па мэтрычных кнігах сьлед прапаў. Ува ўніяцкія цэрквы наслалі расейскіх праваслаўных сьвятароў, якія па сяньня русыфікуюць Беларусь.

Мой дзед, які памёр, калі я была яшчэ 9-ці гадовым дзіцём, у Вяклікі пост перад Вялікаднем з кніжачкі, што перахоўвалася на высокай палічцы ў хаце, сьпяваў, не чытаў, сьпяваў рэлікійныя гімны. Мяне малую цікавілі ў кніжцы малюнкі крыжовых цярпеньняў Хрыста. Я ўглядалася ў дзедаву кніжку й слухала яго сьпеваў. Мова песень была іншая. Не такая, на якой сьпяваюць гімны-малітвы ў царкве, і не такая на якой вучаць нас у школе. Тады дзіцё над гэтым ня задумвалася, тым больш, што па сьмерцві дзеда Яся й ягопнае кніжкі ня стала. Цяпер думаю, што гэта была беларуская ўніяцкая кніжка, якая ўцалела ад царскага агню.

Восеньню 1938 году паступіла я на факультэт права - юрыдычны - Унівэрсытэту Сьцяпана Батуры ў Вільні. Была сяброўкай Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні, які для мяне быў школай Беларушчыны.

Бэры, Канада
15 студзеня, 2002 г.

Раіса Жукоўская - Жук-Грышкевіч